ГРОДНА
№16 (545),
13 верасня 2020

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Памятныя крыжы пры дарозе



*Часцей прыдарожныя крыжы ўзводзілі цэлай вёскай або будаўнікі ці фундатары жадалі застацца ананімнымі.*

*на старонцы* 2

## Катэхеза для ўсіх




*"Чым даўжэй чалавек жыве з памылкамі адносна веры, тым цяжэй іх бывае выправіць…".*

*на старонцы* 4

## Экагрэх. Праца над памылкамі



*Задаўжалі наступным пакаленням! Што рабіць, каб паменшыць шкоду, якую наносім навакольнаму асяроддзю?*

*на старонцы* 5



# Галоўны алтар пабрыгіцкага касцёла праз 70 гадоў "вярнуўся" ў святыню

*на старонцы* 3




*Уладзімір Панцялееў падчас працы над помнікам*

# У Гродне ўсталююць помнік святому Губерту

**Выява аленя з крыжом у рагах, які, паводле легенды, убачыў святы, змешчана на гербе горада. Сам св. Губерт лічыцца апекуном Гродна.**

*на старонцы* 6

СЛОВА РЭДАКТАРА

## Дарагія Чытачы!



Пасля кароткага перапынку мы зноў вяртаемся ў Вашы дамы. На гэты раз у крыху зменена́й версіі. Нам вельмі важна, каб адзіная каталіцкая газета Гродзенскай дыяцэзіі была сучаснай, прывабнай, вернай і магла па-ранейшаму даходзіць да Вас. Таму імкнёмся гаварыць новай мовай, перапоўнены новымі ідэямі.

Мы прагнем прыкласці ўсе намаганні, каб зрабіць "Слова Жыцця" цікавым і нешаблонным. Хочам працягваць сведчыць аб хрысціянскай эфектыўнасці, воссю дзейнасці якой заўсёды з'яўляюцца евангельскія каштоўнасці. Хочам данесці гісторыі многіх людзей, для якіх вера, часам здабытая праз гады, стала жыццёвым натхненнем. Хочам служыць парадай сучасным сем'ям, якія шукаюць адказы на хвалюючыя пытанні. Хочам паказаць наш мясцовы Касцёл: малады, дынамічны, які пастаянна ў дарозе і захапляе сваім гераізмам ды верай.

Дзякуючы Вашай падтрымцы мы прагнем надалей евангелізаваць, быць апорай для духоўнага развіцця і фарміраваць наша грамадства. Папа Павел VI у апостальскай адгартацыі "Evangelii nuntiandi" сказаў, што "евангелізацыя – гэта не самая важная задача Касцёла, а адзіная". Таму лічым за гонар несці іншым Добрую Навіну, бо гэта ўпісана ў тоеснасць кожнага хрысціяніна. Давайце падтрымліваць адзін аднаго духоўна, дзяліцца Словам і разам евангелізаваць!

кс. Юрый Марціновіч

КАЛЯНДАР

**14 верасня**

***Свята Узвышэння Святога Крыжа.***

*Гэтае свята прыгадвае нам вялікае значэнне крыжа як сімвала хрысціянства і дапамагае ўсвядоміць, што не павінны успрымаць яго толькі як элемент дэкору нашага дома ці адну з многіх частак свайго ўбору.*

**15 верасня**

***Успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Балеснай.***

*Праз успамін Марыі Балеснай усведамляем цярпенні, што давялося перажыць Маці Божай, якая як ніхто іншы была з'яднана з Хрыстом, у тым ліку ў Яго пакутах, цярпенні і смерці.*

**16 верасня**

***Успамін св Карнелія, Папы, і Кіпрыяна, біскупа.***

*Карнелій кіраваў Касцёлам у 251–253 гадах. Касцёл у Рыме налічваў у час яго панавання 46 святароў, 7 дыяканаў, 7 субдыяканаў, 42 акаліты, 52 экзарцысты, а таксама звыш 10-ці лектараў і астыярыяў, а ўся хрысціянская супольнасць налічвала 10 тысяч вернікаў.*

*Кіпрыян быў біскупам Карфагена. Падчас эпідэміі стаў нястомным суцяшальнікам хворых. У 258 годзе быў асуджаны на смерць шляхам адсячэння галавы мячом за тое, што адмовіўся скласці ахвяру рымскім багам.*

**18 верасня**

***Успамін св. Станіслава Косткі, манаха.***

*Станіслаў нарадзіўся ў Расткове (Польшча). Цудоўным чынам аздароўлены ад цяжкай хваробы праз заступніцтва Найсвяцейшай Маці, пастанавіў уступіць у Таварыства Езуса. Памёр у Рыме ў 1568 годзе ў арэоле святасці. З'яўляецца заступнікам дзяцей і моладзі, а таксама Літургічнай службы алтара.*

**21 верасня**

***Свята св. Мацвея, апостала і евангеліста.***

*Мацвей перадаў мноства падрабязнасцей з жыцця і навучання Езуса, якіх не знойдзем у іншых Евангеллях: напрыклад, пашыраны тэкст Казання на Гары, прыпавесць пра пустазелле, пра схаваны скарб, пра каштоўную жамчужыну, пра 10 панняў. Ён адзіны апісаў паклон Мудрацоў і забойства немаўлят, уцёкі ў Егіпет, а таксама бачанне Апошняга Суда.*

**23 верасня**

***Успамін св. Айца Піо з П'етрэльчыны, святара і манаха.***

*Айцец Піо жыў у Італіі (1887–1968). Капуцын з найвялікшым душпастырскім запалам служыў вернікам праз духоўнае кіраўніцтва, прымірэнне грэшнікаў з Богам і разважлівы клопат пра хворых і бедных, служачы Божаму люду ў малітве і пакоры.*

# ПАМЯТНЫЯ КРЫЖЫ ПРЫ ДАРОЗЕ: СВЕДЧАННІ СУЧАСНІКАЎ

**Моцай знака хрысціянскай веры людзі здаўна намагаліся абараніць зямлю "ад голаду, агню і вайны". Таму месцы для ўзвядзення крыжоў ніколі не выбіраліся выпадкова.**

*Ангеліна Пакачайла*

### КАБ БАЧЫЛІ, МАЛІЛІСЯ І ПАМЯТАЛІ

– Драўляныя прыдарожныя крыжы ўпрыгожвалі пачатак кожнай мясцовасці, стаялі каля значных дарожных скрыжаванняў. Вернікі усталёўвалі іх каля ўезда ў вёску, на межах паселішча, каб паказаць адданасць насельнікаў хрысціянскім каштоўнасцям. Таксама людзі збіраліся каля крыжоў у час сумесных набажэнстваў на свята, спыняліся каля іх пры выпраўленні ў апошні зямны шлях аднавяскоўцаў, – распавядае Уладзімір Прыхач, краязнаўца са Смаргоні.

Традыцыя ўзвядзення высокіх крыжоў-абярэгаў вядома з часоў распаўсюджання хрысціянства на тэрыторыях былога Вялікага Княства Літоўскага. Першапачаткова яны вырабляліся з дрэва, пазней – з выкарыстаннем каменю, цэглы, металу.

– Калі збунцевелы крыж занепадаў, вернікі ставілі новы на былым намоленым месцы. Такім чынам захоўвалася памяць пакаленняў, працягваліся векавыя традыцыі ўшанавання веры, – зазначае спадар Уладзімір.

Прыдарожныя крыжы раней называлі "паклоннымі". Чалавек, які праходзіў міма, звычайна здымаў шапку і аддаваў паклон

**Да VI стагоддзя вернікі не змяшчалі на крыжах постаць Хрыста.**

Езусу Хрысту ў распяцці. Часам пры дарозе можна ўбачыць памятныя крыжы, усталяваныя на ўспамін аб якіх-небудзь падзеях. Падобны ўзвышаецца ў в. Кадыш Гродзенскага раёна, дзе адбывалася бітва Студзеньскага паўстання. Маюць месца і надмагільныя крыжы. Адзін з іх усталяваны на форце пад в. Навумавічы Гродзенскага раёна, дзе ў 1943 годзе былі расстраляны мірныя жыхары. Па-іншаму такія крыжы яшчэ называюць "памінальнымі". Сярод мноства рэлігійных помнікаў архітэктуры вылучаецца "крыжовая" гара ў Ашмянах. Вось ужо чвэрць стагоддзя штогод у Вербную нядзелю вернікі ідуць у працэсіі на ўзвышша, каб усталяваць там чарговы крыж у памяць аб шляху Езуса Хрыста на Галгофу. Сёння гэтае месца нагадвае ў мініяцюры Гару крыжоў пад Шаўляем (Літва).


Валерый Вараноўіч
Трыяда прыдарожных крыжоў у в. Бяляны

### НАМАГАННЯМІ НЕРАЎНАДУШНЫХ

Часцей прыдарожныя крыжы ўзводзіліся цэлай вёскай або будаўнікі ці фундатары жадалі застацца ананімнымі. Часам сустракаюцца крыжы, усталяваныя стараннямі канкрэтнай асобы, сям'і, як сімвал падзякі за ласкі, атрыманыя ад Бога.

– Крыж у в. Білі, якая знаходзіцца ў Воранаўскім раёне, паставілі ля дарогі перад сваёй хатай мае дзядуля і бабуля – Чэслаў і Гэлена Сакалоўскія, – дзеліцца Алеся Шаткіна. – Яны былі вельмі веруючымі людзьмі, набожнымі каталікамі. Крыж стаў адлюстраваннем іх веры і таго, што Бог ім заўсёды дапамагаў.

На пачатку 2000-ых гадоў прыдарожны крыж быў аднаўлены і паўторна асвечаны пробашчам парафіі Канвелішкі, да якой тэрытарыяльна належыць вёска.

На жаль, у 1960–1970-ыя гады па распараджэнні ўлад безліч прыдарожных крыжоў на тэрыторыі сучаснай Беларусі былі вынішчаны: іх выкопвалі, палілі, вывозілі. Мясцовыя вернікі намагаліся ўсімі сіламі бараніць святыя рэліквіі. Часта з-за гэтага праследаваліся атэістычным, ваяўнічым камунізмам, ссылаліся на нялюдскія землі, але ніколі не адракаліся ад веры ў Езуса Хрыста.

– Жыхары Нямнова над Аўгустоўскім каналам успаміналі, колькі ім каштавала абарона ў пасляваенны час крыжа бліз колішняга млына, – распавядае Роберт Сарноўскі з Польшчы, які ў свой час шмат падарожнічаў па Беларусі і рабіў фотаздымкі культурнай спадчыны Вялікага Княства Літоўскага для гістарычна-турыстычных карт. – Савецкія ўлады не хацелі, каб стары драўляны крыж быў заменены на новы. Настойліва сцвярджалі, што ў гэтым месцы ўвогуле ніколі не было крыжа… і не павінна быць. Вёска Нямнова прыдарожны крыж усё ж абараніла.

### ЦІКАВАСЦЬ ДА АРТЭФАКТАЎ

Сёння прыдарожныя крыжы маюць не толькі культурнае, рэлігійнае значэнне, але і выклікаюць прыватны інтарэс. Валерый Вараноўіч, дацэнт кафедры беларускай філалогіі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, распавядае, што ў вольны час любіць вандраваць на веласіпедзе па-за горадам і фатаграфаваць. Не так даўно ўвагу выкладчыка прыцягнуў адметны крыж у в. Бяляны Гродзенскага раёна, прычым надпісы на ім выклікалі прафесійную, лінгвістычную зацікаўленасць. У выніку спадар Валерый прысвяціў гэтаму навуковы артыкул.

Такім чынам у мужчыны з'явілася хобі – збіраць здымкі прыдарожных крыжоў-абярэгаў і аналізаваць надпісы на іх. На дадзены момант даследчык сістэматызаваў надпісы на 20-ці крыжах. У калекцыі ж аўтара яшчэ больш здымкаў, бо далёка не на кожным крыжы значыцца нейкі тэкст.

**Прыдарожныя крыжы з'яўляюцца адказам на заклік Хрыста: "Ідзіце і абвяшчайце Евангелле" (Мц 16, 15).**

Між іншым, Гродзенскі раённы культурна-інфармацыйны цэнтр запусціў праект пад назвай "Прыдарожныя крыжы… Маўклівая гісторыя малой радзімы". Збіраюцца сучасныя і гістарычныя звесткі, якія датычаць артэфактаў на тэрыторыі раёна. Плануецца стварыць інтэрактыўную карту крыжоў Гродзенскага раёна і на аснове гэтага распрацаваць экскурсійны маршрут.

Хочацца спадзявацца, што аб'екты рэлігійнай архітэктуры не сыдуць у нябыт. Крыжы пры дарогах будуць і далей выразным напамінам пра тое, што шлях чалавека пазначаны знакам любові, клопату і апекі Бога.

# ГАЛОЎНЫ АЛТАР ПАБРЫГІЦКАГА КАСЦЁЛА ПРАЗ 70 ГАДОЎ "ВЯРНУЎСЯ" Ў СВЯТЫНЮ

працяг са с. 1

**Устаноўлена дакладная копія алтара XVII стагоддзя, які быў знішчаны ў савецкі час. Яго аднаўлялі цягам года па старых фотаздымках, а ўрачыстае адкрыццё і асвячэнне прымеркавалі да 30-годдзя вяртання святыні каталіцкім вернікам.**

*Кінга Красіцкая*


Урачыстае адкрыццё аднаўленага алтара адбылося 23 жніўня

### ТРАГІЧНЫ ЛЁС ХРАМА З ТОНКІМ ХАРАСТВОМ

Калі ўваходзіш у касцёл, позірк міжволі скіроўваецца на галоўны алтар, дзе прабывае Бог, дзе складаецца ахвяра праз малітву святара і супольнасці вернікаў. Гэта найцудоўнейшае месца ў кожнай святыні, яе сэрца. Сапраўдным упрыгожаннем касцёла Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне доўгі час таксама быў разбяняны галоўны алтар. Усё ўнутранае ўбранства святыні, якая славілася прыгажосцю і густам, перастрывала дзве сусветныя вайны, але было цалкам знішчана ў савецкі час.

Кс. канонік Антоній Грэмза, рэктар касцёла, адзначае, што гэтая святыня – адна з найстарэйшых у Гродне. Яна была пабудавана дзякуючы намаганням маршалка ВКЛ Кшыштафа Веселоўскага і яго жонкі Аляксандры з Сабескіх. Унутраным аздабленнем пабрыгіцкага касцёла займаўся вядомы майстар Георгій Цэльг, які ў свой час прыехаў у Гродна з Гданьска (Польшча). У гэтай нялёгкай працы яму дапамагалі мясцовыя цесляры. Над багатым строем святыні працаваў шэраг мастакоў, якія стварылі скульптурныя кампазіцыі, абразы і алтарныя вывы.

"Унутранае аздабленне храма было, з аднаго боку, простым і стрыманым у адрозненне ад іншых гродзенскіх касцёлаў, а з другога боку, яму было ўласціва тонкае харастьва, – гаворыць кс. Антоній. – Галоўны алтар меў рысы класіцызму, пра што сведчылі кручаныя калоны. Яны нагадвалі калоны з базілікі св. Пятра ў Рыме. Чарговай адметнасцю галоўнага алтара было тое, што ў яго цэнтры ў паглыбленні знаходзіўся абраз Маці Божай Снежнай, а засланяў яго абраз Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі. Пакольскі апошні быў большага памеру, у кляштарных хроніках узгадвалася нават назва касцёла «Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі Большай». Сёння гэты тытул забыты і не ўжываецца".

У 1950 годзе, калі савецкія ўлады закрылі кляштар і касцёл, прыстасаваўшы святыню пад склад, святое месца было разрабавана. Усе алтары, а таксама амбон, арган, балкон і ўнутранае аздабленне былі знішчаны. Вядома, што нешматлікія асобныя алтарныя часткі апынуліся ў дзяржаўных музеях.

"У 1990 годзе касцёл вярнулі вернікам, але гэта былі сапраўдныя руіны, – з роспачу ўзгадвае рэктар касцёла. – Спярша мы зрабілі рамонт унутры, затым пачалася рэстаўрацыя святыні. Але галоўнага алтара не было на працягу ўсіх гэтых гадоў. Толькі ў верасні мінулага года мы змаглі з радасцю сказаць: «Прыйшоў час!», – і ўзяліся за працу".

### ЯК ФЕНІКС З ПОПЕЛУ

Аднаўляў галоўны алтар пабрыгіцкага касцёла вопытны гродзенскі майстар Вітольд Габінскі. Дзякуючы яго намаганням было адрэстаўравана 25 каталіцкіх святынь на тэрыторыі Гродзенскай дыяцэзіі.

"Мне паставілі дастаткова складаную задачу, – распавядае майстар. – Трэба было збудаваць алтар з нуля, абапіраючыся толькі на старыя фотаздымкі інтэр'ера святыні. Пры гэтым патрабавалася паўтарыць форму і канструкцыі, як у XVII стагоддзі, каб алтар арганічна ўпісваўся ў кампазіцыю касцёла. Даводзілася руплівa працаваць штодзённа з перапынкамі на нядзелі і святы. Але зараз маю адчуванне, што гэтыя 11 месяцаў праляцелі, як адзін дзень".

Спадар Вітольд гаворыць, што задаволены вынікам сваёй працы, хоць прыходзілася нялёгка. Давялося прымяраць ролю і архітэктара, і будаўніка, і мастака.

"Алтар рабілі не з дрэва, а з каменных блокаў. Затым пакрывалі ўсю канструкцыю адмысловай фарбай, выкарыстоўваючы тэхніку венецыянскага мармуру, – занчае майстар. – Першая праблема, з якой сутыкнуўся, калі ўзяўся за працу, – нестандарт. І пабрыгіцкі касцёл тут не выключэнне: гэта тыповыя цяжкасці для такога роду аб'ектаў. Фірмы, што выконваюць пэўныя элементы і механізмы пад замову, выстаўляюць за свае паслугі касмічныя цэнні-кі. А большасць з іх нават не хоча звязвацца з такімі складанымі замовамі. Таму прыходзіцца ўсё рабіць самастойна. Канешне, часам не абыходзіцца без мазгавога штурму, і тады няма іншага выйсця, акрамя як самому стаць экспертам".


Вітольд Габінскі пазалочвае дэкаратыўныя элементы новага алтара



Спадар Вітольд адразу прыводзіць прыклады, каб не быць галаслоўным: "Я па ўсёй краіне шукаў людзей, якія пагодзяцца выканаць калоны. І ніхто не ўзяўся за гэтую працу, паколькі форма нетыповая. Атрымліваецца, што тэхналогіі ў нас крочаць наперад, а на практыцы бачым, што сотні гадоў таму людзі сякерай маглі зрабіць больш. У выніку прыйшлося ламаць галаву і самому іх рабіць. Чарговыя цяжкасці ўзніклі, калі стваралі нішу для абразоў. У паглыбленні алтара, згодна з традыцыяй, трэба было размясціць ікону Маці Божай Снежнай. Раней яе здымалі ўручную, а зараз яна павінна выязджаць механічна падчас вялікіх рэлігійных свят. У астатнія ж дні ікона зачынена «знешнім» абразом Звеставання, які сягае ў вышыню 2,5 метры. Давялося прадумваць не толькі ўсю гэтую канструкцыю да міліметраў, але і сам механізм, бо не знайшлося ахвотных зрабіць яго на замову".

Майстар падкрэслівае, што калі працуеш на такіх аб'ектах, то трэба выконваць працу нават не на 100, а на 200 адсоткаў, каб ніводзін з элементаў не даў збой.

"У народзе часта можна пачуць такі дыялог: «Ці будзе трымацца? – Як прыжывецца! Калі што, ізноў работа будзе». Тут такі нумар не пройдзе. Трэба сумленна падыходзіць да свайго абавязку і рабіць на вякі", – падсумоўвае мужчына.

### ПРАЦЫ ПРАЦЯГНУЦЦА

Падчас урачыстага адкрыцця і асвячэння аднаўленага алтара руплівы рэктар святні кс. Антоній адзначыў, што з часам плануецца аднавіць астатнія алтары, а таксама ўсталяваць на галоўным алтары фігуры святых Аўгусціна, Уладзіслава, Казіміра і Войцеха, святога Міхала Арханёла і анёлаў, якія гістрычна тут прысутнічалі.

"Дзякую кожнаму, хто духоўна і матэрыяльна падтрымаў стварэнне алтара. Цяпер касцёл заззяў новым жыццём і непаўторным харавством", – адзначыў напрыканцы ўрачыстасці кс. Антоній.



**Абраз Маці Божай Снежнай, які аздабляе галоўны алтар пабрыгіцкага касцёла, быў створаны ў XVII стагоддзі пад відавочным уплывам барокавага алтарнага жывапісу. У свой час яго ўратавалі ад знішчэння парафіяне, і святыня да 2003 года захоўвалася ў гродзенскім фарным касцёле. Затым пасля рэстаўрацыі абраз быў перададзены ў касцёл брыгітак і толькі сёлета вярнуўся на сваё гістарычнае месца – у алтар.**

**Рэстаўрацыяй абраза Маці Божай Снежнай займаўся гродзенскі мастак і рэстаўратар Уладзімір Кіслы. Майстар узгадвае, што зараз ікона прадаўгаватая, хоць першапачаткова яна мела квадратную форму. Дошку датачылі зверху і знізу хутчэй за ўсё ў XVIII стагоддзі. У гэты ж перыяд абраз быў аздоблены каронай і шатамі.**

**"Дошка, на якой наклеена палатно з вывай, уся была ў дзірачках ад цвікоў, сам абраз – моцна забруджаны, – узгадвае спадар Уладзімір. – Таму перада мной стаяла традыцыйная задача: захаваць усё аўтарскае і дапасаваць тое, што страчана. Канешне, усведамленне, што тысячы людзей маліліся перад гэтым абразом і многім Маці Божая дапамагла, сыграла сваю ролю. Я адчуваў вялікую адказнасць і стараўся выканаць сваю працу на найвышэйшым узроўні".**

**Майстар падкрэслівае, што шаты, якія зараз аздабляюць ікону, закрываюць значную частку каштоўнага жывапісу. Таму ён спрабаваў намовіць кс. рэктара, каб асобна павесіць абраз, а асобна – шаты, як гэта робяць, напрыклад, у Літве. Але ў выніку ад гэтай задумы адмовіліся.**

## АКТУАЛЬНА

*Ватыканскае радыё*

### Традыцыйная сустрэча Тэзэ пераносіцца на год

43-ая Еўрапейская сустрэча моладзі ў духу Тэзэ, якая павінна была адбыцца ў Турыне (Італія) у канцы снежня – пачатку студзеня, перанесена на наступны год. Рашэне прынята ў сувязі з эпідэміялагічнай сітуацыяй, пасля ўзгаднення з касцёльнымі і грамадзянскімі ўладамі.

Штогадовыя сустрэчы, якія праводзяцца ў калядныя дні ў найбуйнейшых гарадах Еўропы, з'яўляюцца часткай "Пілігрымкі надзеі", ініцыяванай экуменічнай супольнасцю Тэзэ больш за 40 гадоў таму. Маладыя людзі моляцца разам і разважаюць над хвалюючымі пытаннямі.

### Названы лаўрэат каталіцкай прэміі ў кінематографе

Джузэпэ Аваці прызнаны лаўрэатам Прэміі імя Рабэра Брэсона. Яна была ўручана італьянскаму рэжысёру ў рамках 77-га Міжнароднага Венецыянскага кінафестывалю.

Прэмія імя Рабэра Брэсона – гэта высокая адзнака кінематаграфічнай працы рэжысёра, які ў сваіх фільмах аналізуе найбольш аўтэнтычныя вымярэнні чалавека, вывучае духоўнасць, шукае сэнс жыцця. Штогод Прэмію ўручаюць Фонд "Ente dello Spettacolo" і кінематаграфічны часопіс "Rivista del Cinematografo" пад патранажам Папскай Рады па справах культуры і Дыкастэры па справах камунікацыі.

### Анансавана новая энцыкліка Святога Айца

У бліжэйшы час папа Францішак выдасць энцыкліку, прысвечаную міжчалавечай садружнасці. Яна звязана з Дэкларацыяй аб братэрстве паміж людзьмі, міры ў свеце і агульным суіснаванні, якую Папа і Вялікі імам Аль-Азхар падпісалі ў Абу-Дабі 4 лютага 2019 года. У ёй рашуча асуджаецца тэрарызм і насілле, гучыць заклік да пашырэння талерантнасці і міру ў свеце, абароны правоў кожнага чалавека, асабліва жанчын і дзяцей.

Анансаваны дакумент стане 3-яй энцыклікай Пантыфіка пасля "Lumen fidei" (2013) і "Laudato si'" (2015).

### Бенедыкт XVI – самы пажылы Пантыфік у гісторыі

Папу-эмерыту зараз 93 гады і амаль 5 месяцаў. Ён знаходзіўся на Пасадзе св. Пятра з 2005 па 2013 гады. Зараз жыве ў былым кляштары "Mater Ecclesiae" ў Ватыканскіх садах.

Да нядаўняга часу самым пажылым Папам быў Леў XIII, які памёр ва ўзросце 93 гадоў і 4 месяцаў, пасля 25-гадовага пантыфікату. Перад ім быў Клімент XII – на момант смерці меў амаль 88 гадоў. За ім ішоў Клімент X – памёр праз 10 дзён пасля свайго 86-годдзя. Амаль 86 гадоў пражыў бл. Пій IX, 31-гадовы пантыфікат якога застаецца самым доўгім у сучаснай гісторыі Касцёла.

### Малітоўныя інтэнцыі на верасень

#### паўсюдная

Молімся, каб рэсурсы планеты не разрабоўваліся, а па-справядлівасці і з пашанай дзяліліся.

#### дыяцэзіяльная

Молімся аб духоўным плёне катэхізацыі дзяцей і моладзі нашай дыяцэзіі, а таксама за бацькоў і катэхетаў, якія займаюцца навучаннем найважнейшым праўдам веры.

# КАТЭХЕЗА ДЛЯ ЎСІХ,
## АБО НІКОЛІ НЕ ЗАРАНА, НІКОЛІ НЕ ЗАПОЗНА

працяг са с. 1

**Новы катэхетычны год прадстаўляе магчымасць пакарыць чарговую духоўную вяршыню. І няма розніцы, у якім узросце гэта рабіць. Бо калі фізічна мы абмежаваныя, і ўзысці на гару прасцей у маладосці, чым у сталасці, то наш дух – больш вольны і гатовы ўвабраць у сябе Бога ў любы час.**

**Пра асаблівасці і формы евангелізацыі вернікаў розных узроставых катэгорый распавядаюць духоўныя асобы і свецкія катэхеты.**

Ангеліна Марцішэўская



Сустрэча катэхетаў Гродзенскай дыяцэзіі ў Лідзе



**С. Вераніка Казлоўская**
*з Кангрэгацыі Сясцёр Кармэлітак Дзіцятка Езус, педагог дашкольнага выхавання ў Брэсце*

Кожную суботу ў нашым кляштары збіраюцца дзеці дашкольнага ўзросту. Распачынаем сустрэчу раніцай і заканчваем у 14.00. Запрашаем таксама прыйсці і паўдзельнічаць бацькоў з дзецьмі, якіх яшчэ не могуць пакінуць без догляду: дзеткі, якія маюць год, паўтары ці два. Такія зносіны вельмі важныя і для дзяцей, і для дарослых. Малыя адчуваюць сябе больш упэўнена, бацькі могуць змяніць паўсядзённую атмасферу і паназіраць за дзіцём у соцыуме або абмяняцца досведам у асабістым выхаванні.

Звычайна распачынаем дзень крыху спантанна. Вітаемся, запрашаем хлопчыкаў і дзяўчат у гульнявы пакой. Дзеткі асвойваюцца, выбіраюць самі сабе занятак. Мы стараемся ўключыцца, да кожнага падысці, запытацца, як сябе адчувае, выслухаць дзіця, далучыцца да забавы. Пасля ідзём у капліцу. Вучымся супольна малітвы "Ойча наш", "Вітай, Марыя", "Хвала Айцу". Вельмі прыемна назіраць і слухаць, як дзеткі моляцца да Бога. Гэта заўсёды шчырыя, праўдзівыя і адкрытыя просьбы. Спяваем пад гітару розныя рэлігійныя спевы з адмысловымі жэстамі. Затым адбываюцца творчыя заняткі: клеім, малюем, лепім і г. д. Адна з сясцёр раскрывае тэму, дае заданне, якое дзіця выконвае з дапамогай дарослага, калі ёсць у гэтым патрэба. Існуе перапынак на невялікі пасілак: гарбата, бутэрброды, салодкае, фрукты. Пасля падсілкавання адбываецца прагляд рэлігійнага мультфільма, абмеркаванне ўбачанага. На заканчэнне сустрэчы – адпачынак і гульні на свежым паветры.

Па маім досведзе, зацікавіць дашкалят хрысціянскай тэматыкай даволі проста. Яны ў гэтай справе вельмі адкрытыя і непасрэдныя. Ім цікава ўсё! Канешне, у залежнасці ад узросту. Асаблівая гэта датычыць узросту "чамучак" (4 гады), калі проста неабходна адказваць на кожнае пытанне, на якое не заўсёды ведаеш адказ. Галоўнае ў гэтай справе, каб было шмат наглядных: красамоўны і сапраўдны вобраз (малюнак, фігура, прадмет). Яшчэ лепш, калі можна дакрануцца, пакаштаваць або адчуць пах (свечка, аплатка, ружанец, кадзіла і г. д.). Усё рыхтуецца загадзя ў залежнасці ад тэмы.

Тут дарэчна падзяліцца гісторыяй, якая адбылася на Божае Нараджэнне. Мы ладзілі адмысловае прадстаўленне ў выкананні дашкалят. Вырашылі паказаць пры парафіі… і сабралі аншлаг! Вельмі цікава было назіраць за апранутымі ў касцюмы малюткамі і тым, з якім выразам яны прамаўлялі свой тэкст. На заканчэнне батлейкі ўсе сталі на паклон і разышліся… Засталася сядзець толькі "Марыя", якая не змагла злезці з крэсла… Дзякуй яна не заплакала, а толькі глыбока ўздыхнула і самастойна спаўзла з крэсла разам з "Дзіцяткам Езус", якое мела на руках. Гэты момант прынёс шмат усмешак і застаецца ў памяці да сёння.

Падчас нашых заняткаў асаблівую ўвагу звяртаем на асобы Бога Айца і Яго Сына Езуса, на Божую любоў да ўсіх нас. Падкрэсліваем, што Усемагутны блізка, чуе нас і бачыць. Абапіраючыся на гэтую праўду, скіроўваем таксама ўвагу на адносіны паміж сабой, гаворым аб любові, павазе і дапамозе бліжнім, аб шанаванні ўсяго, што нас атачае.

Вядома, што чалавек – вышэйшае стварэнне Бога, створанае з вялікай любові. Наша заданне – як мага раней адкрыць свет для дзіцяці ў правільным усприманні і далейшым мудрым фарміраванні погляду. Не ў страху, але ў Божай любові, не ў эгаістычным самаўдасканаленні, але ў адказнасці і суперажыванні.

Мне здаецца, калі працуеш у сваёй харызме, Бог кіруе ўсёй справай, падказвае спосабы і метады дзейнасці, дае ўпэўненасць ва ўчынках. Можна сказаць, Бог дае накірунак, дзе галоўным заданнем застаецца да служэння ў бескарыслівай любові, а пасля сам дзейнічае са сваёй ласкай.

Вядома, плады нашай дзейнасці будзем збіраць у вечнасці. Часам прыходзілі думкі, што нічога асаблівага не робім. Але ўсе нашы сёстры былі вельмі ўражаны паводзінамі дзяцей і іх рэакцыяй. Напрыклад, ніколі ніхто не хацеў вяртацца хутка дадому, наадварот, затрымлівалі бацькоў, каб яшчэ крыху пабавіць час з намі. Бацькі часта расказвалі, што дзеці загадзя збіраліся, пыталіся, калі ўрэшце пойдуць да сясцёр. Калі ж былі непаслухмяныя і чулі, што застануцца дома, адразу выпраўляліся. Прыемна, што самі бацькі заўсёды з упэўненасцю даваюць сваіх дзетак нам.



**Марына Жыбартовіч-Протас,**
*катэхетка ў парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

Калі 20 гадоў таму пробашч запрасіў мяне ў парафію служыць катэхеткай, я спыталася: чаму менавіта я? Ён адказаў, што як свецкая асоба змагу знаходзіцца з катэхізаванымі паўсюль: у школе, у кафэ, на дыскатэцы – і мае паводзіны павінны быць для іх прыкладам хрысціянскага жыцця. Адначасова я адчуваю яшчэ большую адказнасць, бо па традыцыі большым аўтарытэтам карыстаецца духоўная асоба.

За час выкладання катэхезы заўважыла тэндэнцыю аддзялення сфер жыцця сярод падлеткаў: у школе вучуся, у касцёле малюся, у асабістым жыцці раблю, што захачу, і г. д. Таму дэвізам свайго служэння зрабіла наступныя словы: "Хрыстос прысутнічае ва ўсіх сферах жыцця". Адпаведна падчас заняткаў стараюся кожную тэму замацаваць уласным сведчаннем прысутнасці Бога ў жыцці. У сваю чаргу падлеткі падчас катэхезы пытанняў задаюць мала або ўвогуле не задаюць – спецыфіка ўзросту. Аднак пастаянна заўважальны ажыятаж падчас тэмы "Сексуальнасць – дар Бога і заданне" ў 9 класе… Таксама вялікую цікавасць сярод вучняў 10 класа выклікае тэма "10 Божых запаведзяў" з падрабязным аналізам кожнай.

Заўсёды імкнуся прапанаваць хлопцам і дзяўчатам штосьці для пазакласнага чытання. Аднак, на жаль, беларуская рэчаіснасць не мае ў наяўнасці такога багацця літаратуры і іншых рэсурсаў, якое катэхеты маюць, напрыклад, у Польшчы. Існуе шмат цудоўных кніг, інтэрнэт-парталаў, часопісаў, але яны на польскай мове, даступныя не ўсім. Раю пашукаць штосьці на мясцовых хрысціянскіх парталах, асабліва каталіцкіх, пазычаю кніжкі. Часта ў межах хатняга задання вучні бяруць інтэрв'ю ў святароў, манахінь, практыкуючых вернікаў, каб натхніцца жывымі прыкладамі веры.

Аддаючы сябе вучням, атрымліваю водгук: чую ад іх кампліменты. Здараюцца і кур'ёзы. Напрыклад, аднойчы мне сказалі: "Вы як Святая Марыя, толькі крыху інакш апранутая".

Кажучы пра дасягненні ў служэнні, хачу адзначыць, што ідэальным плёнам было б, каб мае вучні знаходзіліся побач з Хрыстом ва ўсім, усюды і заўсёды! А рэальны плён – гэта пакуль падзяка за катэхезы, якія дапамагаюць у жыцці быць сапраўдным хрысціянінам!



**Андрэй Дзяшкевіч,**
*старэйшы каардынатар хрысціянскага евангелізацыйнага курса "Альфа" пры касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне*

Катэхізацыяй у рамках курса "Альфа" я займаюся на працягу 2-ух гадоў. Усяго разглядаем 15 тэм, з якіх 13 асвятляюць свецкія хрысціяне. Выбар тэмы індывідуальны. На мой выбар уплыў аказвае Божы план. Напрыклад, першы раз я абраў тэму "Навошта і як мне варта чытаць Біблію?", бо сам даведаўся пра неабходнасць рэгулярнага чытання Евангелля толькі падчас праходжання курса. Усвядоміў гэта і вырашыў падзяліцца перажываннямі з нашымі слухачамі.

Увогуле, да ўдзелу ў "Альфе" мае адносіны з Богам і Касцёлам былі кволыя. Адразу пасля заканчэння курса я вырашыў выправіць прабел у сваіх ведах і стаў наведваць біблійную групу пры пабрыгіцкім касцёле, а потым і пры касцёле Божай Міласэрнасці ў Гродне.

Крыху адрозніваўся працэс выбару тэмы "Як і навошта мне маліцца?". Так здарылася, што разрыў у адносінах з Богам у маім жыцці працягваўся вельмі доўга, практычна нанова прыйшлося навучыцца з Ім размаўляць. На дадзены момант я выкарыстоўваю малітву ў кожнай сферы свайго жыцця і дзялюся сваімі перажываннямі падчас лекцыі. Дарэчы, наш куратар кс. канонік Антоній Грэмза хацеў, каб лекцыю аб малітве чытаў мужчына, каб вярнуць традыцыю малітвы ў сям'і, дзе саму малітву ініцыюе бацька. На сезон курса 2020/2021 я вырашыў абраць вельмі актуальную для сённяшняга часу і для сябе ў прыватнасці лекцыю "Навошта Езус памёр?" – пра крыж і грэх у нашым жыцці.

Часцей за ўсё ад слухачоў даводзіцца чуць пытанні пра грэх: ці з'яўляецца тое ці іншае праламленнем Божага закону і чаму. На такія пытанні адказаць можна досыць лёгка, маючы добрую тэарэтычную базу, а ў самых складаных выпадках – скарыстацца падказкай святара. Праблематычна з пытаннямі, якія тычацца неабходнасці прабачэння, любові да бліжняга, бо важна, каб чалавек не проста пачуў твой адказ, але і прыняў яго як кіраўніцтва да дзеяння, усвядоміў неабходнасць працы над сабой, важнасць малітвы.

Маючы за плячыма досвед евангелізацыі дарослых асоб, хачу адзначыць, што катэхізацыя старэйшага пакалення мае свае асаблівасці. Па-першае, у кожнага чалавека з часам у галаве складваюцца пэўныя стэрэатыпы, а часам і памылкі адносна веры, Бога, граху і іншых важных пытанняў хрысціянства. І чым даўжэй чалавек з імі жыве, тым складаней бывае іх выправіць. Па-другое, пераважная большасць нашых слухачоў адчуваюць патрэбу абмеркаваць з іншымі хрысціянамі хвалюючыя тэмы, убачыць, што яны не самотныя ў праблемах, падзяліцца сваімі перажываннямі. Прычым усведамленне гэтага часта прыходзіць не адразу, а толькі ў працэсе зносін з больш адкрытымі на Бога слухачамі.

Мне падаецца, што кожны дарослы, незалежна ад узроўню рэлігійнага выхавання, павінен прайсці катэхізацыю ў больш сталым узросце. Нават калі чалавек ніколі не адыходзіў ад Касцёла, не губляў кантакт з Богам, важна абнаўляць атрыманыя яшчэ ў дзяцінстве веды, каб мець магчымасць данесці іх сваім дзецям, унукам, любому бліжняму, які апынуўся ў цяжкай сітуацыі.

Адкрыць жа Бога даросламу чалавеку, які нічога пра Яго не ведаў, – крыху іншае пытанне. Аднак я лічу, што ў кожнага ёсць сваё ўяўленне пра Бога, няхай часам не вельмі дакладнае або нават зусім няправільнае. Думаю, першасным у такім выпадку з'яўляецца ўсведамленне таго, што Ён – любячы Айцец. Зразумець гэта, а таксама навучыцца будаваць адносіны з Богам, у тым ліку і праз малітву, можна гледзячы на каго-небудзь, хто гэты шлях прайшоў. Мой жыццёвы вопыт і досвед адносін з Богам карысныя для тых, хто доўгі час прабываў па-за Касцёлам і меў зусім павярхоўнае ўяўленне пра веру.

Падагульняючы, адзначу, што плён свайго пакуль яшчэ нядоўгага служэння бачу ўжо сёння. Шчаслівыя твары нашых выпускнікоў, сустрэчы ў касцёле з тымі, хто раней абыходзіў яго бокам, умацаванне хрысціянскай традыцыі… Асабліва ганаруся тым, што маю 40-гадовага хросніка – былога атэіста. Спіс супольных дасягненняў "Альфы" можна працягваць бясконца. І гэта не кажучы пра змены ў сэрцах тых, хто займаецца служэннем людзям на курсе або ў іншых супольнасцях, г. зн. у сэрцах тых, хто вырашыў частку свайго жыцця аддаць Богу і Яго дзецям.

ЭКАЛАГІЧНАЯ ЦНОТА

*Пачынаем рубрыку пазнавальных артыкулаў аб прынцыпах экалогіі, аб тым, што карысна ці шкодна чалавеку і прыродзе, як, адзначаючы рэлігійныя святы, захаваць чысціню навакольнага асяроддзя. Вы даведаецеся аб сусветных экалагічных датах і акцыях, аб тым, у якіх рэспубліканскіх і гарадскіх эка-мерапрыемствах варта ўдзельнічаць і якую падтрымку можна аказаць сваім голасам.*



Алена Майсюк

# ЧАМУ МІНІМІЗАЦЫЯ ЭКАЛАГІЧНАГА СЛЕДУ МОЖА ЗБЕРАГЧЫ АД ЭКАЛАГІЧНАГА ГРАХУ?



*працяг са с. 1*

**“Калі мы не апамятаемся, то ператворым Зямлю ў пекла”, – гэтыя словы папа Францішак прамовіў падчас адной з аўдыенцый у Ватыкане. Святы Айцец, вядомы сваёй пазіцыяй эка-актывіста, прапанаваў таксама ўвесці ў Катэхізіс Каталіцкага Касцёла паняцце “экалагічнага граху” – учынку, які наносіць шкоду навакольнаму асяроддзю.**

**ШТО ЎНУТРЫ, ТОЕ І ЗВОНКУ**

Нашы ўчынкі ператвараюць навакольнае асяроддзе. Штодня чалавек становіцца перад дылемай: узяць салафанавы пакет ці скарыстацца шматразовай упакоўкай, праехаць на асабістым аўто ці выбраць альтэрнатыўны спосаб перамяшчэння, падтрымаць перавытворчасць ці набыць толькі самае неабходнае.

**Экалагічны след – гэта мера ўздзеяння чалавека на асяроддзе пражывання, якая дазваляе разлічыць памеры прылягаючай тэрыторыі, неабходнай для вытворчасці спажываных экалагічных рэсурсаў і паглынання адходаў.**

І што б не выбраў чалавек, пры гэтым ён узаемадзейнічае з жывымі арганізмамі і іх асяроддзем пражывання. Прынятае рашэнне абавязкова адлюструецца ў прасторы: забруджваннем ці чысцінёй нашага агульнага дома.

Штодзённае жыццё людзей з’яўляецца асноўнай крыніцай экалагічнага следу. Амаль 70% следу – вынік вядзення хатніх гаспадарак. Ад таго, колькі энергіі і вады мы расходуем, колькі выкідваем смецця, якія выбіраем прадукты (і ў якой упакоўцы), мэблю і вопратку, залежыць ступень уздзеяння чалавецтва на планету. Без змены звычак і паводзін людзей ніякія стандарты, забароны і законы не дапамогуць спыніць разбурэнне навакольнага асяроддзя і дасягнуць гармоніі з прыродай.

**ЧАЛАВЕЦТВА ЎЖО 50 ГАДОЎ БЯРЭ ЖЫЦЦЁ Ў ДОЎГ У ДЗЯЦЕЙ**

Сусветны дзень экалагічнага доўгу – дзень, у які колькасць выкарыстаных чалавекам аднаўляльных рэсурсаў за год пачынае перавышаць той аб’ём, які Зямля здольна ўзнавіць. Упершыню экалагічны доўг быў зафіксаваны 29 снежня 1970 года. Дэфіцыт рэсурсаў тады складаў толькі 2 дні.

У 2020 годзе дзень экалагічнага доўгу наступіў 22 жніўня. Людзі перарасходавалі тое, што аднаўляецца, і ўзялі ў доўг у планеты і будучых пакаленняў. Празмернае спажыванне рэсурсаў Зямлі вядзе да дэградацыі навакольнага асяроддзя, вынікам чаго становіцца зніжэнне біяразнастайнасці, спусташэнне ўрадлівага пласта глеб, змяненне клімату. Знікне пэўны від птушак – не будзе каму злавіць шкоднае насякомае; без пладароднай глебы не вырасце зеляніна, якая ачышчае паветра; растане ледавік – акіян як большая частка планеты стане халодным, і Зямля стане непрыдатнай для камфортнага пражывання.

Дапамагчы скараціць доўг перад планетай і будучымі пакаленнямі могуць толькі ўсвядомленыя і беражлівыя адносіны да прыроды і яе багаццяў. Ужо сёння можна адмовіцца ад бясплатнага пакета, а ідучы дамоў, прайсці пешшу праз парк, ігнаруючы прывабныя шыльды тарговых цэнтраў.

**БЛІЖЭЙШЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ**

**Сусветны дзень без аўтамабіля**

22 верасня запрашаем на адзін дзень адмовіцца ад транспарту, які спажывае паліва. Можна прайсціся пешшу, выкарыстаць веласіпед ці самакат або грамадскі транспарт. У папярэднія гады ў Гродне ў гэты дзень грамадская арганізацыя “ВелаГродна” падтрымлівала садавінай людзей, якія едуць на працу на веласіпедзе. Грамадскі транспарт не браў плату з кіроўцаў, якія прад’яўлялі пасведчанне кіроўцы і тэхнічны пашпарт асабістага аўтамабіля. Сачыце за анонсамі на сайце velogrodno.by.

# МАЛІТВА ЗА БЕЛАРУСЬ

*Кс. Юрый Марціновіч*

У нашай краіне вельмі неспакойна пасля жнівеньскіх выбараў кіраўніка дзяржавы. У сувязі з гэтым старшыня ККББ арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч заклікаў вернікаў у гэтым месяцы да асаблівай малітвы праз заступніцтва св. Міхала Арханёла, апекуна Беларусі, у інтэнцыі спынення эскалацыі канфлікту і хутчэйшага вырашэння грамадска-палітычнага крызісу.

“Узніклы крызіс – гэта непазбежнае наступства граху беззаконня. Таму неабходна прызнаць грэх – асабісты і калектыўны – і пакаяцца з мэтай перамены нашага жыцця. Замест хлусні павінна запанаваць праўда, замест зла – дабро, замест нянавісці – любоў, замест асуджэння – прабачэнне, замест згубных падзелаў – еднасць”, – адзначае ў камунікацы да вернікаў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі.

У сувязі з гэтым у касцёлах і капліцах на тэрыторыі нашай дыяцэзіі, а таксама па ўсёй краіне трываюць адмысловыя малітвы. Перад выстаўленым Найсвяцейшым Сакрамантам вернікі просяць Бога аб супакоі і згодзе ў грамадстве і аб дары паяднання для грамадзян на шляху дыялогу, у духу ўзаемнай павагі і клопату пра супольнае дабро.

У межах малітоўнай акцыі ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне прайшла перэгрынацыя фігуры св. Міхала Арханёла. Цяпер яна наведвае астатнія катэдральныя касцёлы краіны.



***Святы Міхал Арханёл! Дапамагай нам у духоўнай барацьбе, будзь нам абаронай супраць спакус і каварстваў злога духа. Пакорна просім, няхай яго разгроміць Пан Бог, а Ты, Князь войскаў нябесных, д’ябла і іншых злых духаў, якія на згубу людскіх душ снуюць па свеце, моцай Божай скінь у пекла. Амэн.***

# ПАДТРЫМАЕМ МАЛІТВАЙ АРЦЫБІСКУПА!

**У апошні дзень жніўня Мітрапаліту Мінска-Магілёўскаму арцыбіскупу Тадэвушу Кандрусевічу, які вяртаўся з Польшчы, было адмоўлена ва ўездзе ў Беларусь.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

Прэс-служба МУС

Сустрэча арцыбіскупа з міністрам унутраных спраў

У сувязі з гэтым было распачата мноства малітоўных акцый у інтэнцыі хуткага вяртання арцыбіскупа да сваіх вернікаў, каб ён мог працягваць пастырскае служэнне і кіраваць Касцёлам у Беларусі. Між іншым, у гродзенскай катэдры св. Францішка Ксаверыя на заканчэнне перэгрынацыі фігуры св. Міхала Арханёла адбылася св. Імша ў інтэнцыі іерарха, а таксама за краіну і яе жыхароў. Вернікі ўсіх парафій горада над Нёманам маліліся аб міры і дары паяднання для грамадзян Беларусі на шляху дыялогу, у духу ўзаемнай павагі і клопату пра агульнае дабро.

Кс. арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч ва ўмовах сацыяльна-палітычнага крызісу, які перажывае наша краіна, заклікаў (і працягвае гэта рабіць, знаходзячыся за мяжой) да дыялогу і прымірэння. Іерарх падкрэслівае, што Каталіцкі Касцёл у Беларусі не намагаецца да рэвалюцыі, але падтрымлівае ідэю мірнага вырашэння праблем.

**Старшыня Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў у Беларусі кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч нарадзіўся ў Адэльску пад Гроднам і мае беларускае грамадзянства.**

Будучы яшчэ ў Мінску, арцыбіскуп Кандрусевіч ініцыяваў сустрэчу з міністрам унутраных спраў Рэспублікі Беларусь Юрыем Караевым. На ёй іерарх падкрэсліў, што Каталіцкі Касцёл заўсёды выступае ў абарону слабых і безабаронных і ў гэтай сітуацыі з’яўляецца голасам тых, хто пазбаўлены голасу, як вучыць папа Францішак. Заклікаў вызваліць затрыманых пасля пратэстаў асоб, а таксама звярнуўся да абодвух бакоў канфлікту, просячы скласці зброю і вырашыць спрэчку мірным шляхам.

У цяжкі для ўсіх нас час давайце мабілізуемся да малітвы, праявім асаблівую салідарнасць з арцыбіскупам Тадэвушам, які так шмат робіць для Каталіцкага Касцёла і грамадства нашай краіны. Давайце падтрымліваць адзін аднаго ў любой сітуацыі. Мы адна вялікая сям’я. Няхай паміж намі ніколі не будзе падзелаў. Няхай любоў, згода і прабачэнне прывядуць нас да агульнай мэты – мірнага і шчаслівага жыцця на зямлі і вечнага збаўлення.

ДАПАМАГЧЫ ДОБРАЙ РАДАЙ

# ЯК ВЫРАШЫЦЬ ПРАБЛЕМЫ СА СНОМ?



**Кс. Павел Салабуда,** *псіхолаг*

У грамадстве ёсць вельмі вялікая група людзей, якія маюць праблемы са сном, пакутуюць ад недастатковай яго колькасці альбо дрэннай якасці. Прычыны могуць быць розныя: ад праблем на працы да існавання клінічных парушэнняў сну. Некаторыя з іх шырока распаўсюджаны, іншыя ж рэдкія і дзіўныя.

У наш час бяссонніца з'яўляецца найбольш частым парушэннем у людзей, якія адчуваюць, што колькасць сну не адпавядае іх патрэбам. Некаторыя хранічна недасыпаюць, іншыя часта прачынаюцца ноччу альбо зачасна раніцай. Калі прыступ бяссонніцы выпадковы, то не трэба панікаваць. Паспешнае рашэнне звярнуцца да снатворных прэпаратаў можа пагражаць парушэннямі нармальнага цыклу сну. Да таго ж, наступствы працяглага выкарыстання гэтых сродкаў яшчэ да канца не вывучаны.

Пастараюся падаць некаторыя са спосабаў, як эфектыўна вырашыць праблемы са сном:

1. **Трэніраваць уласны біялагічны гадзіннік.** Неабходна засынаць і прачынацца штодзень прыблізна ў адзін і той жа час.

2. **Адкласці перад сном усе клопаты.** Калі многае непакоіць і цяжка ачысціць розум, варта паспрабаваць завесці г. зв. "дзённік турбот", у які перад тым, як класціся спаць, можна запісваць усё, што "ходзіць" у галаве.

3. **Стварыць адпаведную атмасферу для сну.** Не спрачацца ў спальні, выдаліць усю стрэсавую актыўнасць з месца сну. Тады цела будзе атаясамліваць яго з рэлаксацыяй.

4. **Наладзіць "сонны" рытуал.** Можна запланаваць пэўныя заняткі, якія дапамогуць расслабіцца перад сном: напрыклад, прыняць гарачую ванну, паслухаць спакойную музыку альбо прачытаць "лёгкую" кнігу.

5. **Абмежаваць час карыстання гаджэтамі незадоўга да сну.** Было б добра перад тым, як заснуць, увогуле адмовіцца ад тэлевізара, камп'ютэра і тэлефона. Блакітнае святло, якое яны выпраменьваюць, падманвае наш мозг, які можа ўспрымаць яго як дзённае святло. З-за гэтага часам цяжка заснуць.

6. **Пазбягаць на ноч цяжкай ежы і вялікіх доз алкаголю, а таксама фізічных практыкаванняў.** Займацца варта рэгулярна, але ў ранейшы час.

7. **Маліцца перад сном.** Варта дзякаваць Богу за чарговы дзень і прасіць спакойнай і добрай ночы.

Існуе яшчэ мноства іншых спосабаў барацьбы з бяссонніцай, але калі ўсё гэта не дасць эфекту, тады варта звярнуцца да спецыяліста.

Сярод людзей бытуе шмат розных сцвярджэнняў пра сон і бессань, але мне вельмі падабаецца думка, што чалавек з чыстым сумленнем спіць спакойна і моцна. Можа, варта часцей хадзіць на споведзь? Я не знайшоў у літаратуры, хто з'яўляецца заступнікам добрага сну, але думаю, што кожны святы апякун альбо Анёл-ахоўнік заўсёды з гатоўнасцю паслужаць нам дапамогай. Узгадаўся таксама псалом 91 з кнігі Яна Каханоўскага "Псалмы Давіда": "Хто пад апеку сябе Пану даверыць і ад усяго сэрца шчыра Яму паверыць, той смела скажа: Мой абаронца – Бог, Ён аслоніць мяне ад усіх страшных трывог".

працяг са с. 1

# У ГРОДНЕ ЎСТАЛЮЮЦЬ ПОМНІК СВЯТОМУ ГУБЕРТУ

Кінга Красіцкая

Над стварэннем помніка працаваў вядомы мясцовы скульптар Уладзімір Панцялееў. Аўтар адзначае, што саму ідэю ўвекавечання асобы святога ён выношваў не адзін год, ім нават быў распрацаваны адмысловы эскіз скульптуры. Аднойчы на аркуш з выявай скульптуры св. Губерта звярнулі ўвагу прадстаўнікі мясцовай улады, якія наведаліся ў майстэрню. Яны прапанавалі мастаку ўвасобіць праект у жыццё.

"Праца над помнікам кіпела цягам некалькіх месяцаў, – гаворыць Уладзімір Панцялееў. – Спачатку я зрабіў мяккі макет, каб наглядна прадэманстраваць сваю задумку, а ўжо пасля ўзяўся за стварэнне арыгінальнай скульптурнай кампазіцыі. Яе сюжэт традыцыйны: св. Губерт стаіць побач з аленем. Падобныя помнікі можна сустрэць на вуліцах шэрагу еўрапейскіх краін. Мой аўтарскі варыянт выкананы з бронзы. Мае вышыню прыкладна 85 сантыметраў і будзе ўсталяваны на двухметровай гранітнай калоне".

Мастак падкрэслівае, што ўсталяваць скульптуру планавалася напярэдадні Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур, але з-за эпідэміялагічнай сітуацыі мерапрыемства адмянілі, таму ўрачыстае адкрыццё помніка мае адбыцца ў другой палове верасня, а менавіта ў Дзень горада. Скульптурная кампазіцыя будзе ўпрыгожваць скрыжаванне вуліц Савецкая і Кастрычніцкая.



Hrodna.life

**Паводле легенды, св. Губерту падчас палявання аб'явіўся цудоўны алень з залатым крыжом паміж рагоў. Натхніўшыся гэтым знакам, ён стаў адданым хрысціянінам, раздаў сваю маёмасць бедным.**

**Пачынаючы з сярэднявечча св. Губерт шанаваўся па ўсёй Еўропе, асабліва чынам як апякун паляўнічых і леснікоў. У яго гонар былі названы некалькі вайсковых ордэнаў, паляўнічы замак Губертусбург пад Дрэздэнам (Германія), буйны астэроід, адкрыты ў 1886 годзе, а алень святога з'яўляецца лагатыпам вядомага зёлкавага лікёру "Jägermeister".**

**Ужо некалькі стагоддзяў св. Губерта як нябеснага заступніка свайго горада шануюць гродзенцы. Сімвал святога – алень з залатым крыжом – упрыгожвае герб Гродна з 1540 года. Ён быў абраны сімвалам горада па той прычыне, што недалёка яго размяшчаліся багатыя паляўнічыя ўгоддзі Белавежскай і Гродзенскай пушчы, а там часцей за ўсё сустракаўся менавіта высакародны алень. Чаму на гербе Гродна алень скача праз агароджу? Тут прасочваецца сувязь з сярэднявечнай назвай горада – "Горадзень", якая паходзіць ад слова "гарадзіць". Агароджа таксама сімвалізуе свабодалюбства гродзенцаў.**

# Як можам ушанаваць нашага святога апекуна?

Над гэтым пытаннем некалі ў адной са сваіх публікацый разважаў грэка-каталіцкі святар а. Андрэй Крот. Ён падкрэсліў, што шанаванне святога апекуна нашага горада павінна насіць не толькі фармальны характар. Для хрысціян горада яго навяртанне, жыццё і духоўны подзвіг могуць стаць узорам таго, як жыць хрысціянскімі ідэаламі. Святар прапанаваў некалькі канкрэтных захадаў для пашырэння культу святога ў Гродне:

- святарам варта часцей узгадваць пра св. Губерта ў гаміліях. Для вернікаў, асабліва для моладзі, ён можа быць прыкладам у пошуках трывалых жыццёвых ідэалаў;

- так як ні ў адной са святынь Гродна няма абраза св. Губерта, грамадскасць горада можа замовіць і ахвяраваць яго, узгаднiўшы з духоўнымі ўладамі, аднаму з храмаў. Гэты храм і абраз маглі б стаць цэнтрам шанавання нябеснага заступніка Гродна. Варта дадаць, што абраз лепш было б змясціць у адным з новых храмаў горада, паколькі старыя ўжо маюць дастаткова прыгожых і каштоўных святых выяў, і змяшчэнне новага абраза ў іх можа быць праблематычным;

- святкаванне Дзён св. Губерта, якія адбываюцца ў лістападзе, варта пачынаць з малітвы. Вернікі могуць замовіць адмысловыя набажэнствы ў сваіх храмах, просячы святароў маліцца за горад і ўсіх яго жыхароў.

Паколькі св. Губерт з'яўляецца святым непадзеленага Касцёла, няма перашкод для яго ўшанавання і вернікамі Праваслаўнай Царквы.

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

# Колькі "каштуе" замовіць св. Імшу?

Ватыканскае радыё

*У Касцёле пабачыла свет новая ватыканская інструкцыя адносна арганізацыі жыцця ў парафіях, у якой асаблівая ўвага надаецца пытанню "імшальных інтэнцый". Дакумент пад назвай "Душпастырскае навяртанне парафіяльнай супольнасці на службе евангелізацыйнай місіі Касцёла" быў апублікаваны 20 ліпеня 2020 года. Ён выяўляе небяспеку таго, што парафіі могуць застацца бюракратычна-арганізацыйнымі адзінкамі, больш засяроджанымі на ўласнай стабільнасці, чым на евангелізацыі.*

*Інструкцыя распрацавана Кангрэгацыяй па справах духавенства. Што датычыць "кошту" імшальных інтэнцый, у дакуменце выкарыстоўваюцца словы "ахвяраванне", "добраахвотнае ахвяраванне", а не "плата". Святы Айцец Францішак неаднаразова падкрэсліваў, што святары не павінны патрабаваць грошы за цэлебрацыю Эўхарыстыі. "За св. Імшу не плацяць! Св. Імша – гэта ахвяра Хрыста, якая была складзена бязвыплатна. Адкупленне – бязвыплатнае. Калі хочаш скласці ахвяру – рабі гэта, але за Імшу не плаціцца", – сказаў Папа падчас агульнай аўдыенцыі 7 сакавіка 2018 года.*

*У інструкцыі гаворыцца, што "ахвяра па сваёй прыродзе павінна быць добраахвотным актам з боку ахвярадаўцы, памер якой пакідаецца яго сумленню і пачуццю адказнасці за Касцёл, а не ўстаноўленай «цаной», «абавязковым тарыфам», «сакраментальным падаткам»". Акрамя таго, "важна выхоўваць вернікаў, каб яны ахвотна садзейнічалі задавальненню патрэб парафіі, якія з'яўляюцца «іх справай», і каб яны вучыліся вырашаць іх самастойна, асабліва ў краінах, дзе ахвяры на св. Імшу па-ранейшаму з'яўляюцца адзінай крыніцай утрымання для святароў і адным з матэрыяльных сродкаў, неабходных для евангелізацыі".*

*Было адзначана, што варта строга сачыць за тым, каб ахвяраванне на Імшу не ператваралася ў "здзелку" ці "гандаль". Святарам настойліва рэкамендавана цэлебраваць Эўхарыстыю нават не атрымаўшы грошай ад вернікаў, асабліва бедных.*

*Трэба заўважыць, што некаторыя касцёльныя правінцыі вызначаюць памер ахвяры на св. Імшу. Там многія святары адмаўляюцца ад грошай і прызначаюць іх на дабрачыннасць і грамадскія праекты. У шматлікіх іншых мясцовых Касцёлах, у тым ліку ва Усходняй Еўропе, імшальныя інтэнцыі з'яўляюцца практычна адзіным сродкам утрымання для святара і рэалізацыі душпастырскіх ініцыятыў.*

# КАСЦЁЛ НА БАКУ БЕДНЫХ І ПАКРЫЎДЖАНЫХ

**Святое Пісанне Старога і Новага Запавета сведчыць, што Бог з'яўляецца абаронцам справядлівасці і становіцца на баку прыгнечаных.**

Кс. Тадэвуш Крыштопік

Прарок Ісая заклікае: "Навучыцеся рабіць дабро. Шукайце правасуддзя, дапамагайце прыгнечанаму, абараняйце сірату, заступайцеся за ўдаву!" (Іс 1, 17). Бог папярэджвае магутных і багатых, каб памяталі, што несправядлівасць адносна слабых не сыдзе ім беспакарана: "Сын мой! [...] Не засмучай чалавека ў яго нястачы; не бянтэж сэрца ўжо засмучанага [...]; не адводзь вачэй ад таго, хто просіць, і не давай чалавеку падставы праклінаць цябе; бо калі ён у гароце душы сваёй будзе праклінаць цябе, Творца яго пачуе малітву ягоную" (параўн. Сір 4, 1–6).



Генрых Гофман, "Хрыстос і багаты юнак", 1889 г.

Езус Хрыстус, наш Пан і Заснавальнік Касцёла, сказаў пра сябе: "Дух Пана на Мне, бо Ён намасціў Мяне абвяшчаць Добрую Навіну ўбогім" (Лк 4, 18). Засведчыў таксама: "Шчаслівыя ўбогія духам [...], засмучаныя [...], галодныя і прагнучыя справядлівасці [...], міратворцы [...], каго пераследуюць за справядлівасць [...]" (параўн. Мц 5, 3–10). "Прыйдзіце да Мяне, усе спрацаваныя і абцяжараныя, і Я супакою вас" (Мц 11, 28).

Аб тым, якое вялікае значэнне ранні Касцёл надаваў клопату пра людзей, што апынуліся ў складанай сітуацыі, сведчаць Дзеі Апосталаў. У першай супольнасці ў Іерусаліме ўсё было агульнае: багатыя прадавалі сваю маёмасць, а грошы перадавалі апосталам, каб яны пры дапамозе дыяканаў маглі падтрымліваць тых, хто трапіў у цяжкасці. Пасля навяртання

> **Касцёл запрашае да сябе ўбогіх, каб маглі суцешыцца.**

апостал Павел разам з Барнабам накіраваліся да Пятра, Якуба і Яна, каб атрымаць адабрэнне на місійную дзейнасць. Апосталы даручылі ім быць чулымі да людзей, якія жывуць у нястачы і складаных абставінах: "Якуб, Кефас і Ян, якіх лічаць стаўпамі, [...] падалі мне і Барнабу правіцу на знак супольнасці, каб нам ісці да язычнікаў, а ім – да абрэзаных, каб толькі мы помнілі пра ўбогіх, і менавіта гэта я старанна рабіў" (Гал 2, 9–10).

На працягу стагоддзяў адданыя Хрысту людзі Касцёла стараліся аблегчыць лёс бедным і абяздоленым. Напрыклад, Ордэн Святой Тройцы, заснаваны ў 1198 годзе св. Жанам дэ Мата і св. Феліксам дэ Валуа, галоўнай мэтай якога было вызваленне хрысціянскіх нявольнікаў з рук мусульман, за час свайго існавання вызваліў каля 900 тысяч чалавек. Св. Ян Боско заклаў "салезіянскія" кангрэгацыі, каб ратаваць бедную, загубленую і бяздомную моладзь. Па прыкладзе св. Маці Тэрэзы з Калькуты была заснавана Кангрэгацыя Сясцёр Місіянерак Міласэрнасці, мэта якой – дапамагчы адзінокім і безабаронным людзям, пакінутым на волю лёсу.

Вучэнне пра абавязак Касцёла стаяць на баку бедных і абяздоленых знайшло выраз у Сацыяльнай дактрыне Касцёла, ініцыяванай энцыклікай "Rerum novarum" папы Льва XIII. Ён піша: "Божая любоў, здаецца, больш схіляецца да ўбогіх, бо Езус Хрыстус называе ўбогіх шчаслівымі (параўн. Мц 5, 3); Ён паслання запрашае да сябе тых, хто працуе і смуткуе, каб яны маглі суцешыцца (параўн. Мц 11, 28); асаблівай любоўю ахінае самых бедных і пакрыўджаных. Веданне гэтага вучэння стрымлівае нахабнасць багатага і падымае ўпалы дух ва ўбогім; у першым спараджае спагадлівасць, у другім – умеранасць. Такім чынам,

> **Калі людзі будуць паслухмяныя запаведзям хрысціянства, паміж імі будзе панаваць братэрская любоў.**

скарачаецца адлегласць паміж класамі, якая падтрымліваецца чалавечай ганарыстасцю, і становіцца лягчэй падвесці абодва бакі да таго, каб паціснулі адзін аднаму руку і пагадзіліся. Але нават больш: калі абодва бакі будуць паслухмяныя запаведзям хрысціянства, паміж імі будзе панаваць не толькі простае сяброўства, але і братэрская любоў. Бо ўсе людзі адчуюць і зразумеюць, што іх стварыў агульны Айцец – Бог, што ўсе яны імкнуцца да адной мэты – да Бога, які адзіны можа даць ідэальнае і поўнае шчасце людзям, як даў яго анёлам, што ўсе былі аднолькава адкуплены Езусам Хрыстом і ўзнесены Ім да годнасці Божых дзяцей" ("Rerum novarum", 20–21).

Таму нічога дзіўнага, што кожны веруючы чалавек, тым больш каталіцкі святар ці біскуп, не можа абыякава прайсці міма беднага, церпячага ці пакрыўджанага чалавека.

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ. КОЖНУЮ НЯДЗЕЛЮ Ў 8.00 НА ПЕРШЫМ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ КАНАЛЕ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ

Кс. Юрый Марціновіч

*13 верасня – XXIV Звычайная нядзеля*
*Мц 18, 21–35*

Пётр падышоў да Езуса і сказаў Яму: "Пане, калі мой брат будзе грашыць супраць мяне, колькі разоў я павінен прабачаць яму? Ці аж сем разоў?". Езус адказвае яму: "Не кажу табе, што аж сем разоў, але аж семдзесят сем разоў.

Таму Валадарства Нябеснае падобнае да караля, які захацеў разлічыцца са сваімі слугамі. Калі ён пачаў разлічвацца, прывялі да яго аднаго, які вінен быў яму дзесяць тысяч талантаў. Паколькі той не меў чым заплаціць, то гаспадар загадаў прадаць яго і жонку, і дзяцей, і ўсё, што ён меў, і заплаціць. Тады, упаўшы, слуга кланяўся перад ім і казаў: «Будзь велікадушны да мяне, і ўсё табе аддам». Гаспадар, злітаваўшыся над гэтым слугою, адпусціў яго і дараваў яму доўг. А калі гэты слуга выйшаў, знайшоў аднаго з сабратоў сваіх, які вінен быў яму сто динараў, і, схапіўшы яго, душыў, кажучы: «Аддай мне, што вінен». Тады сабрат яго ўпаў да ног ягоных і маліў яго, кажучы: «Будзь велікадушны да мяне, і аддам табе». Але той не захацеў, а пайшоў і пасадзіў яго ў вязніцу, пакуль не аддасць доўгу.

Сабраты яго, убачыўшы, што здарылася, засмуціліся і, прыйшоўшы, расказалі гаспадару свайму ўсё, што сталася. Тады гаспадар ягоны паклікаў яго і сказаў: «Нягодны слуга! Увесь твой доўг я дараваў табе, таму што ты папрасіў мяне; ці ж не належала і табе змілавацца над сабратам тваім, як і я змілаваўся над табою?». І, разгневаўшыся, гаспадар ягоны аддаў яго мучыцелям, пакуль не верне яму ўсяго доўгу. Так і Айцец Мой Нябесны зробіць вам, калі кожны з вас ад сэрца вашага не даруе брату свайму".

### Шукаць радасць свабоднага сэрца

*Езус Хрыстус сваім прыкладам і словам вучыць нас, што хрысціянін заўсёды павінен прабачаць, дараваць віну, якую хтосьці ўчыніў супраць яго.*

*Хрысціяніну належыць прабачаць ад сэрца: не дзеля "святога спакою" ці таму, што так выпадае. Матывам такога прабачэння можа быць толькі любоў вучняў Хрыста, якой вучацца ў Яго. Любоў – сапраўдная і чыстая – не памятае зла. У адваротным выпадку, калі мы хочам выкарыстаць прынцып няроўнай справядлівасці – іншы для сябе, а іншы для нашых даўжнікоў, – самі закрыем сабе шлях да Божага прабачэння.*

*Ёсць яшчэ адна прычына дараваць віну сваім даўжнікам: у тых, хто ўмее прабачаць, лягчэй на душы. Таму варта адпусціць усе спазнаныя крыўды, каб знайсці непаўторную радасць свабоднага сэрца.*

*Пане Езу, дай мне ласку дараваць сваім бліжнім усе крыўды і нанесеныя раны. Дай ласку свабоднага сэрца, якое здольна ахінуць кожнага чалавека.*

*20 верасня – XXV Звычайная нядзеля*
*Мц 20, 1–16а*

Езус расказаў сваім вучням гэтую прыпавесць: "Валадарства Нябеснае падобнае да гаспадара дому, які выйшаў на світанні наняць работнікаў у вінаграднік свой. Дамовіўшыся з работнікамі па дынару за дзень, ён паслаў іх у вінаграднік свой.

Пасля ён выйшаў каля трэцяй гадзіны і, убачыўшы іншых, якія стаялі на рынку без працы, сказаў ім: «Ідзіце і вы ў вінаграднік мой, і я справядліва заплачу вам». Яны пайшлі. Зноў выйшаўшы каля шостай і дзевятай гадзіны, зрабіў тое самае.

Выйшаўшы каля адзінаццатай гадзіны, ён знайшоў іншых, якія стаялі без працы, і сказаў ім: «Чаму вы стаіце тут цэлы дзень без працы?». Яны сказалі яму: «Нас ніхто не наняў». Ён кажа ім: «Ідзіце і вы ў вінаграднік».

Калі ж настаў вечар, гаспадар вінаградніку сказаў свайму эканому: «Пакліч работнікаў і заплаці, пачаўшы з апошніх да першых». І тыя, хто прыйшоў каля адзінаццатай гадзіны, атрымалі па дынары. Тыя, што прыйшлі першымі, думалі, што атрымаюць больш, але яны таксама атрымалі па дынары.

Узяўшы, яны пачалі нараркаць на гаспадара дому, кажучы: «Гэтыя апошнія працавалі адну гадзіну, і ты зраўняў іх з намі, якія перанеслі цяжкі дзень і спёку». У адказ ён сказаў аднаму з іх: «Дружа, я не крыўджу цябе. Хіба не аб дынары ты дамаўляўся са мною? Вазьмі сваё і ідзі. Я ж хачу даць гэтаму апошняму так, як і табе. Ці ж не дазволена мне рабіць са сваім тое, што хачу? Ці вока тваё зайздросціць, што я добры?». Гэтак апошнія будуць першымі, а першыя – апошнімі".

### Пачаць жыць добра ўжо сёння

*Прабачэнне грахоў – гэта найвялікшы дар, які чалавек атрымлівае ад Бога. Ён зусім не залежыць ад людскіх разлікаў. Можна быць грэшнікам на працягу многіх гадоў і мець шмат зла на сумленні. Аднак дастаткова сапраўднага раскаяння і жадання змяніць жыццё – і Бог дарує чалавеку ўсё гэта.*

*Мы, людзі, не здольны ўявіць, як далёка сягае Божая міласэрнасць. Мусім памятаць толькі адно: нельга грашыць наўмысна і разлічваць, што калі-небудзь, "на пенсіі", навернемся і будзем мець больш часу на малітву. Ніхто не ведае ні дня, ні гадзіны свайго адыходу.*

*Застаючыся ў паставе грэшніка, мы вельмі рызыкуем, бо можа не хапіць часу і магчымасці прызнацца ў сваіх грахах і папрасіць у Бога прабачэння. Вось чаму абавязкова ўжо сёння жыць добра і справядліва, а таксама цешыцца, што і іншыя наварнаюцца.*

*Пане Езу Хрыстэ, учыні так, каб маё жыццё заўсёды было напоўнена Тваёй збаўчай ласкай, бо дзякуючы гэтаму змагу выратаваць сваю душу. Дапамажы мне жыць добра і справядліва.*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ВІКТАРУ ВЕЛІВІСУ

*з нагоды імянін і 18-ай гадавіны паслугі ў нашай парафіі ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, шмат сіл у нялёгкай святарскай службе, апекі Маці Божай, дароў Святога Духа і дапамогі святога заступніка ў кожную хвіліну жыцця.*

*Вернікі з парафіі св. Роха ў Грандзічах*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ АЛЕГУ ЖУРАЎСКАМУ

*з нагоды 45-годдзя перадаём сардэчныя пажаданні: шчодрых ласкаў ад Езуса Хрыста, апекі Найсвяцейшай Маці, дароў Святога Духа, здароўя і душэўнага супакою на доўгія гады жыцця, шмат сіл і стойкасці, запалу для абвяшчэння Божага слова, веры, надзеі і любові, каб дапамагаць людзям знаходзіць Праўду.*

*Удзячныя парафіяне з Нававельні*

### ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ ПРОБАШЧУ АЛЯКСАНДРУ МАХНАЧУ

*з нагоды дня нараджэння дасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай добры і міласэрны Бог адорвае Вас моцным здароўем, цярплівасцю, супакоем і ўсімі патрэбнымі ласкамі, Маці Божая ахінае апекай і любоўю, а Святы Дух нястомна спасылае свае дары і дапамагае ў душпастырскім служэнні. Жадаем шчырых і добразычлівых людзей на жыццёвым шляху, радасці і шчодрага плёну ў службе Богу і людзям!*

*З павагай і малітвай вернікі з парафіі Ліда-Індустрыяльны*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЯНУ САРЭЛУ

*з нагоды 45-годдзя ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя, поспехаў у паслузе на карысць Богу і людзям, аптымізму, радасці і шчасця на кожны дзень. Няхай Пан будзе шчодры на свае ласкі і блаславенне, Маці Божая нястомна апекуецца Вамі, а Святы Дух удзяляе свае дары.*

*Станіслава Сідаровіч і Люцыя Лабэцкая з Воўпы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЯНУ САРЭЛУ

*з нагоды 45-годдзя перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай добры Бог адорвае ласкай здароўя, Хрыстос заўсёды вядзе па сваіх сцежках, а Святы Дух удзяляе свае шчодрыя дары і кіруе Вамі як ахоўнікам праўды Касцёла.*

*Марыя Вішнеўская і Марыя Скорб з Воўпы*

### ПАВАЖАНЫ КСЁНДЗ ПРОБАШЧ ЯЦЭК МАРКЕЛЬ!

*З нагоды дня нараджэння і імянін жадаем, каб Езус Хрыстус штодзённа Вас блаславіў, Маці Божая ахінала сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагаў годна выконваць святарскую паслугу і нястомна ўдзяляў свае дары. Дзякуем Богу за Вашу дабрыню, любоў да людзей, мудрасць, аптымізм, за клопат пра нашу святыню. Молімся, любім, паважаем і ганарымся Вамі!*

*Колы Жывога Ружанца з парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Зэльве*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ АЛЯКСАНДРУ РАМАНОЎСКАМУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем, каб гэты радасны дзень назаўсёды адхіліў у цень Вашы перажыванні, смутак і трывогі. Жадаем Вам самую дробязь: няхай усё, што маеце ў жыцці, прыносіць Вам радасць; усё, чаго не маеце, не з'яўляецца неабходнасцю; няхай усё, аб чым марыце, цудоўным чынам з'явіцца ў жыцці. Упэўнена крочце дарогай да святасці, ніколі не губляйце напрамку дабрыні і праведнасці. Няхай добры Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, узмацняе веру і цярплівасць, дорыць сэрцу святло і супакой.*

*Вернікі з касцёла Беззаганага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЕГУ ЖУРАЎСКАМУ

*з нагоды імянін дасылаем сардэчныя словы віншаванняў. Жадаем шчодрых дароў Святога Духа, сталай апекі Панны Марыі, добрага здароўя, душэўнага супакою на кожны дзень і добразычлівых людзей побач. Няхай з Божай дапамогай здзяйсняюцца ўсе Вашы намеры і планы.*

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам са Смаргоні*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЯЦЭКУ МАРКЕЛЮ

*з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, радасці, мудрасці і цярплівасці. Няхай Найсвяцейшая Маці Божая заўсёды Вам дапамагае, а святы заступнік апекуецца ў кожную хвіліну жыцця.*

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Зэльвы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЯНУ САРЭЛУ

*з нагоды дня нараджэння перасылаем самыя сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, шчодрых дароў Святога Духа і Божых ласкаў, а таксама нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі на кожны дзень. Няхай радасць, любоў, супакой і дабрыня заўсёды жывуць у Вашым сэрцы.*

*Сем'і Крэцкіх і Альховік*

### ШАНОЎНАЙ БАБУЛІ МАНІ АНІСКЕВІЧ

*з нагоды дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай усемагутны Бог і Панна Марыя заўсёды клапоцяцца пра Вас. Жадаем моцнага здароўя, штодзённай радасці, людской зычлівасці і Божага блаславлення на кожны момант жыцця.*

*З пашанай манаскія сёстры Ганна і Агнешка*

### ПАВАЖАНЫМ КСЯНДЗАМ ВІТАЛІЮ ЦЫБУЛЬСКАМУ І АРТУРУ ВАЛЧКЕВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, здзяйснення з Божай дапамогай усіх задум і планаў, як мага больш адкрытых і шчырых людскіх сэрцаў, безупыннай надзеі, радасці ад паклікання і Хрыстовай любові, каб кожны Ваш дзень быў сонечны і шчаслівы.*

*Легіён Марыі і апостальства "Маргарытка" з касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

### ПАВАЖАНАЙ СЯСТРЫ ФІЛАТЭІ ЦІХАНОВІЧ

*з нагоды імянін перасылаю сардэчныя пажаданні.*
*Да Панны Марыі малітвы ўзнашу,*
*За кожны Ваш дзень Хрыста Пана прашу:*
*Хай будзе здароўе, любоў і цяпло,*
*Жыццё каб цікавым і добрым было!*
*Дарогі шчаслівай і справы ўдалай,*
*Каб дома матуля заўсёды чакала.*
*Ніякія цяжкасці хай Вас не страшаць.*
*Пан Бог дапаможа ў цяжкасцях Вашых!*

*Са шчырай малітвай Аліцыя Воранава са Смаргоні*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВІТАЛІЮ ЦЫБУЛЬСКАМУ

*з нагоды дня нараджэння складаем шчырыя віншаванні і словы ўдзячнасці за паслугу ў нашай парафіі, за св. Імшы, імкненне наблізіць нас да Пана Бога, за тое, што праз Божае слова, праз уласны прыклад умацоўваеце нас у веры, кранаеце нашы душы, робячы іх чыстымі, добрымі і міласэрнымі. Няхай кожны дзень дае Вам сілы для служэння людзям і Каталіцкаму Касцёлу. Поспехаў, здароўя і цярплівасці на святарскім шляху, шчодрых дароў Святога Духа, Божага блаславлення і апекі Панны Марыі. Дзякуем Пану Богу за тое, што Вы з намі, а Вашым бацькам – за сына святара.*

*Удзячныя вернікі з парафіі св. Казіміра ва Уселюбе*

### ПАВАЖАНАЙ СЯСТРЫ МАРЫІ СТАСЕВІЧ

*з нагоды дня нараджэння жадаю шчасця і як мага больш радасных хвілін. Няхай Божая міласэрнасць праз мае малітвы ўзнагародзіць Вас добрым здароўем, моцай, стойкасцю, нязгасным запалам у шчырай і адданай паслузе Богу і людзям. Няхай Найсвяцейшая Маці атуліць Вас сваім плашчом, ахіне любоўю і дабрынёй, а Святы Дух асвятліць дарогу, якой крочыце да Бога.*

*Са шчырай малітвай Аліцыя Воранава са Смаргоні*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АРТУРУ ВАЛЧКЕВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння дасылаем сардэчныя пажаданні: Божай мудрасці, моцнага здароўя, цярплівасці на святарскім шляху, цёплых і радасных дзён. Няхай Бог Айцец нястомна Вамі апекуецца, Святы Дух блаславіляе кожны дзень паслугі ў нашай парафіі, а міласэрны Езус Хрыстус напаўняе Ваша жыццё дабрынёй, радасцю і спакоем. Дзякуем Богу за тое, што ў нашай парафіі ёсць такі святар, а для Вашых бацькоў просім у Пана моцнага здароўя і патрэбных ласкаў.*

*З павагай і ўдзячнасцю вернікі з касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АРТУРУ ВАЛЧКЕВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння шчыра жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, сілы духа і павагі ад людзей. Няхай моцная вера, светлая надзея і верная любоў Бога напаўняюць Ваша сэрца. Мы ўдзячны Пану за тое, што Вы ёсць сярод нас, што абвяшчаеце Божае слова, падтрымліваеце і заўсёды маеце мудрую параду для кожнага. Дзякуем Вашым бацькам за сына святара і жадаем ім моцнага здароўя.*

*Удзячныя вернікі з капліцы МБ Вастрабрамскай у Урцішках*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ КАНОНІКУ ВІКТАРУ ВЕЛІВІСУ

*з нагоды 20-годдзя святарскіх пасвячэнняў ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, Божых ласкаў і апекі Найсвяцейшай Маці на кожны дзень жыцця. Дзякуем за працу ў нашай парафіі, духоўную апеку, клопат аб святыні, увагу да кожнага верніка, шчырую малітву, добрую ўсмешку і любячае сэрца.*

*Парафіяне з Путрышкаў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРЭЛАТУ ВІТОЛЬДУ ЛАЗАВІЦКАМУ

*з нагоды дня нараджэння перасылаем найлепшыя пажаданні. Няхай добры Бог адорвае Вас здароўем на доўгія гады, дадае сіл, каб далей ісці Яго дарогай. Няхай Хрыстос, якому Вы даверыліся, будзе побач, узмацняе і аберагае, а Маці Божая заўсёды мае ў сваёй апецы.*

*Вернікі з в. Галавенчыцы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ УЛАДЗІМІРУ АКСЕНЦЬЕВУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем здароўя, шчасця, нязгаснага запалу веры і плённай паслугі на ніве Пана. Няхай міласэрны Бог і Святы Дух дадаюць Вам сіл і натхнення, а Маці Божая штодзённа адорвае пяшчотай і дабрынёй свайго сэрца. Жадаем рэалізацыі ўсіх планаў і зычлівых людзей на святарскім шляху. Дзякуем за ахвярнасць у паслузе, любоў і пашану да кожнага з нас. Памятаем пра Вас у малітвах.*

*Вернікі з парафіі Лядск*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

## КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ




**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

Новапрызначаны Мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, епіскап Веніямін узначаліў у сталічным Свята-Духавым кафедральным саборы малебен з акафістам Успенню Найсвяцейшай Багародзіцы і малітвай за беларускі народ.

Адначасова падобныя набажэнствы з малітвай за Бацькаўшчыну адбыліся ва ўсіх праваслаўных храмах краіны. Католікі таксама духоўна далучыліся ў малітве да суайчыннікаў, праваслаўных братоў і сясцёр. За Беларусь моляцца таксама хрысціяне ў розных краінах свету.

Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі заўважыў, што "далей будзе тое, што дасць Бог; што дасць Бог па нашай малітве".




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

С. Ганна Мацуль CSSN прынесла вечныя манаскія абяцанні. Ва ўрачыстасці, якая адбылася ў парафіі св. Тэрэзы Авільскай у Шчучыне, прынялі ўдзел святары, манахіні, якія служаць у Беларусі, блізкія, сябры і вернікі мясцовай супольнасці.

Св. Імшу ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, які маліўся аб умацаванні сястры ў вернасці прынесеным абяцанням. Як знешні знак вечнага пасвячэння манахіня атрымала пярсцёнак са словамі па-лацінску "Мой каханы мой, а я Ягоная". На заканчэнне сястра дзякавала Богу за цудоўны дзень, які ўключыў яе ў паўнаце ў Кангрэгацыю Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта.




**Ватыканскае радые (беларуская рэдакцыя)**

Дыкастэрыя па справах свецкіх, сям'і і жыцця заклікала моладзь наладжваць кантакты з пажылымі людзьмі не толькі ў сваёй сям'і і бліжэйшым акружэнні, але і з тымі, хто жыве ў адзіноце. Імпульсам да заахвочвання стала пандэмія каранавіруса, у выніку якой шмат людзей сталага ўзросту былі ізаляваны ад свету і пазбаўлены кантактаў са сваімі блізкімі.

Кампанія праходзіць пад назвай "Кожны пажылы чалавек – твае бабуля і дзядуля". Усе справаздачы, а таксама ідэі на гэтую тэму можна пазначаць у інтэрнэце хэштэгам #sendyourhug. Лепшыя ініцыятывы будуць апублікаваны ў ватыканскіх сацыяльных медыя.




**рэлігійны часопіс**

Пасля першых жа зарэгістраваных выпадкаў заражэння каранавіруснай інфекцыяй у парафіях стала заўважна менш людзей на нядзельнай св. Імшы. "Вірус стаў лакмусавай паперкай нашай веры. Цяпер паглядзім, хто прыходзіў толькі хлеб есці, а хто – да Бога, – транслíравалі некаторыя святары і вернікі. – Цяпер убачым, які ваш давер да Бога".

Калі хтосьці адчувае ў сабе страх заражэння, то чамусьці павінен быў адчуваць яшчэ і сорам за свой страх. Але калі ў сям'і здараецца няшчасце, вельмі часта, якія б ні былі адносіны паміж яе членамі, гора іх ядная. Чаму ж нас, паклікаfamных быць як адно, няшчасце падзяліла?..

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 75-64-38; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 3346; тыраж 4046; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.